* * *

*восень лісце*
*раскінула веерам*
*нібы карты*
*наваражыла мне тое*
*чаго я не вартая*
*і хоць я зусім не паверыла*
*ёй спачатку*
*пачалі збывацца*
*яе прадказанні*
*ўсе па парадку*
*я прывозіла*
*ўражанняў*
*поўныя жмені*
*з усіх падарожжаў*
*перабірала*
*нібыта каштаны ў кішэні*
*падоўгу кожнае*
*а вочы свяціліся*
*дзіўнай*
*забытай радасцю –*
*у мяне ажывала крыло*
*перабітае сталасцю*

* * *

так нечакана
– Вы?
я разгубілася
вечар
кастрычніцкі
плыў
дажджыстымі
рызамі
мы размінуцца
маглі
але цуд
здарыўся
з сэрца
да сэрца
шляхі
праляглі
і размова
вяжацца
і слова
на слова
пагляд
на пагляд
ніжуцца
так
лёсу майго
падарожная
пішацца
кніжыца

* * *

ліст
на вільготных
далонях
бруку
расплaстаны
бездапаможны
ён спытаўся
аднойчы:
можна
я да Вас
напішу?

* * *

пачатак
знаёмства
нібы
выпадкова –
размова
зусім
нечаканы
працяг –
ліставанне
знаёмства
нанова
і ў свеце
тым –
папяровым
мы
як старыя
знаёмыя
чытаем
усё
паміж
словамі

* * *

у нядзельным
празрыстым
паветры
плывуць званы
ад цябе
да мяне
дарогі –
бясконцыя дні
ад мяне
да цябе –
не паспееш
даслаць
ліста
я сама
лістаношаю-
восенню
надышла

* * *

навват у думках
прамаўляю “Вы”,
бо паміж намі слова,
як мяжа.
па той бок я
не пракладу сляды
і толькі выдыхну:
мой Божа!

* * *

лісты
галоднымі
птушкамі
кормяцца
з рук маіх
крошывам
думак
лятуць
і нясуць
у дзюбах
мёртвыя
словы
не наталіць ім
нашае
прагі
размовы

* * *

лістота
пад нагамі
шапаціць
апавядае
таямніцы лета
і хутка
інквізітары
пачнуць
паліць шаптуху
ў вогнішчах
за гэта...

* * *

так шэра
так невыносна шэра
паветра нібы з паперы
дыхаць цяжка
беспрытульныя дрэвы
быццам уласныя цені
маляваныя рухам нясмелым
малога дзіцяці
апошнія кроплі лістоты
не ратуюць ад слоты
ані ад самоты
і мы з табою пакутуем
ад нематы
пакуль немагчыма
прамовіць простае –
ты

* * *

сувязь была
такой нетрывалай
тонкай
допісы часта
перарывала
шматкроп’ем
эфір забіваўся
нянашымі галасамі
мы прарываліся
праз чужыя размовы
вырываліся з кола замовы
пісалі знёмыя
добра вядомыя словы
і не разумелі мовы
якая праз нас прамаўляла
якая сябе выяўляла
у кожным знаку
у прабелах
у чорных кропках
на белых
лістах
недасланых...

* * *

спаліла
за сабой
масты –
я з Вамі
перайшла
на "ты".
заўважыў
лёс,
хоць і сляпы, –
згубіў
паштар
мае
лісты.
стаю
на беразе
пустым.
гукнуць?
ды не пачуеш
ты,
голас
аціх
да нематы.
ніхто
ні ў чым
не вінаваты.

* * *

імя
твайго
смак
ажынавы
чую
на вуснах
лісты мае –
кажаны
адлятаюць
у пустку
дачакаюся
спелай пары
ягаднай
наталю
вусны
сасмяглыя
віннай
ягадай

* * *

верасень без цябе
так ці не
вернешся ці не вернешся
верас цвіце
яшчэ адна поўня сплыве
па шыбе
як лёс па руцэ
ты прарасцеш
ува мне

* * *

хусты
ахрыстыя
восень
сушыць
у парку
я наліваю
у шкло
празрыстае
глыток
кадаркі
спяшаюся
цешыцца
цёплых
дзён
рэшткамі
бо хутка ўжо
з неба
дзіравага
рэшата
будзе зіма
засыпаць
нас
зернямі
снежнымі

* * *

пакуе восень
манаткі
пашкуматаныя
апошнія
дні лістападу
у шэрасць
умураваныя
і хутка
сухое голле
заменіцца
паціхутку
чырвоным
вуголлем
сагрэе
мяне цяпельцам-
агнём
у каміне
усё
што было
згарыць
праміне

астыне...

* * *

лістапад у халодных
лужынах
ногі нурыць,
валачэцца
па цёмных завулках,
пануры.
а восень
зрабіла сабе
самакрутку з лісця
і курыць...
намаляваць бы
каханкаў гэтых
з натуры!
ні разысціся,
ні разам трываць –
не могуць,
а мусяць плячо ў плячо
выбірацца ў дарогу.
плятуцца з апошніх сіл:
а можа за рогам
зіма іх сустрэне
нарэшце
і пусціць да Бога?..

* * *

Ты захаваў мае лісты?
схаваў?
яны пыляцца ў шафе?
ці раз за разам спажываў,
як лусту хлеба,
сала шмат,
саспелы яблык,
вінаград,
каб перасохлы
ратаваць рот
і сшэрхлы свой
язык –
ты захаваў мае лісты?..

* * *

ці дождж
ці пагода
пакліча
дарога
паклічуць
прыгоды
усходы
заходы
мяжы
пераходы
не трэба
нагоды
вядуць
карагоды
шляхоў
і дарог
ад парога
ў парог
мяне
да цябе
на яве
і ў сне

* * *

я ляцела
у дождж
і ў ноч
кіламетры разлук
матала
і ніколі
наперад не знала
дзе замкнецца
кола дарог
анёл мой
мяне бярог
хоць клопатаў меў
нямала
са мною
такою
як ёсць –
тут пралётам
а там
прапала

* * *

лістападаўскае
стылае
паветра
рэзкі
подых
у твар
валацугі-
ветру
слёзы
нібы туман
краявід
засланяюць
успаміны
на віражах
мяне
даганяюць
вырвацца
з іх аблогі
схавацца
у цёплы
кут
на ўсіх вятрах –
не зламацца
здзівіцца
аднойчы
я
тут?

* * *

бязрадасна
і бязрадна
трываю
ў корку:
святло
то зялёнае,
то чырвонае
– ну, а толку?..

* * *

паміж табой
і мною –
дні
паміж табой
і мной –
радкі
паміж сустрэчамі –
рака
поўная болю
аж да дна
ты не адзін
я не адна
між намі
рэек даўжыня
адлегласцю
у шэры дзень
уздоўж дарогі
мільгацень
пустых
чужых
размоў і праў
а пацалункаў
след растаў
знік
быццам кропля
у траве...
я еду
ад цябе
і – да цябе...

* * *

на беразе
бурштынавага
мора
тваіх
вачэй
мяне
накрыла
хваляю
пяшчота
яшчэ
грамчэй
за стукат
колаў
сэрца
ў клетцы
б’ецца
а мне
здаецца
чую
плешча
мора

* * *

разбіваецца сонца
аб шыбы
вокнаў насупраць
і сцякае
густая чырвань
доўга і млява
я адчуваю
ржавы прысмак
на вуснах
залізваю
быццам сабака
раны
і зноў валакуся
па бітых дарогах
восені
як хутка зіма?
павісае пытанне
туманамі
у зімовых снах
перадышка манецца
бо ў замеці
занікае
губляецца шлях
нібы нітка
памяці

* * *

сустрэчы
наканаваныя
фастрыгай
прашыты
па долі
развітанні
вышыты
крыжыкамі
юдолі
сцежкі
зблытаны
рыскамі
на далоні
вязьмо
падзей
трымае
мяне
ў палоне

* * *

горад
заснежаны
у надвячорку
сінім,
на дрэвах
іней.
хто
будзе помніць,
як называлі
другія?
я наракла
цябе
новым
нязнаным
імем,
снегам
калючым
на вуснах
яно
стыне...

* * *

снег
сляды
закідаў
запарушваў
сцежкі
няма
дарогі
назад
і не дойдзеш
пешкі
і не знойдзеш
сябе
былой
і няма
надзеі
наперад
праз снег
і золь
думкі
ляцелі

* * *

колькі
было
такіх
зімаў
бясконца
даўгіх
снег
засыпаў
марозіла
на паваротах
заносіла
накірункі
ў замеці
блытала
выбівалася
з сілаў
выла
і
вусны
шорсткія
сіверам
зацалаваныя
у рукаў
хавала я

* * *

туга мяне прывядзе
туды, дзе сонца ўпадзе
на захад крыху хутчэй
і дзень скароціць яшчэ,
а вечар зробіць бясконцым,
мы ж у ягонай варонцы
знікнем і прападзем,
нібыта снег у вадзе...

* * *

ён быў не самы горшы,
толькі сталася так, што трынаццаты.
адбылося шмат добрага
(хоць не гэтым ён нам запомніцца):
не стрываў хто – сышоў з дыстанцыі.
цяпер падыходзіць да станцыі
першы вагон новага цягніка.
займайце месцы
згодна з набытым білетам.
кірунак з зімы ў лета,
а потым зноў на зіму,
зноў у білетную касу
займаць чаргу.
калі пашчасціць,
дачэпяць вагон-рэстаран,
але галоўнае
своечасова рвануць стоп-кран.
калі адчуваеш – састаў
не туды коціцца,
колаў спыні мітусню
і выйдзі там,
дзе захочацца...

* * *

ён абяцаў
не знікаць
і знік
нібыта
апошні
цягнік
ад станцыі
адышоў
нават
не даў
гудка
растаў
у прыцемках
вечара
студзеньскага...

* * *

Мост праз Буг, калі едзеш з дому, бясконца доўгі,
адчуваеш, як пад нагамі знікае зямля,
паветра нібыта пахне п'янкой свабодай,
але ты разумееш, што воля тут не твая,
бо з табой застаюцца ўспаміны і мары няпростыя,
і ніхто не ўратуе цябе, і не вызваліць з іх.
будуць дні пад нагамі ўсё тым жа памежным мостам,
покуль ты не павернеш назад, каб дайсці да зямлі.

## ЦЯГНІК БЕРАСЦЕ-МЕНСК

Час спыняецца ў пяць гадзін,
калі да Менску застаецца гадзіна з нечым,
а займацца зусім ужо няма чым,
і цягнік пакрысе заязджае ў маўклівы вечар.
Ты глядзіш на гадзіннік: цікай ты, не маўчы!
давай, хутчэй перасоўвай стрэлкі,
што ж яны захраслі ў табе, нібы стрэмкі?
Бачыш, цягнік спяшаецца, лапаціць,
а ты не хочаш ні трохі дапамагчы?!
Нарэшце шостая. І гарбаты б яшчэ папіў,
але дзе ўжо корпацца? Трэба збірацца скоранька.
А стрэлкі зноў ураслі ў цыферблат з коранем.
Уздоўж чыгункі мільгаюць адно слупы.
Цемра вакол, як той казаў, вока выкалі.
Ну, дзе ж той Менск, за якім пералескам тоіцца?
І раптам – вось яны, агні гарадскія паўспыхвалі!
Цягнік хаду запаволіў, памалу коціцца.
Апошнія хвілін дзесяць стаіш у тамбуры
Нервова курыш: яшчэ зусім крышку, трошачкі.
Дзе ж праваднік, ну, што ён там
ледзь варушыцца?
Адчыняй, адмыкай, мы ўжо дома
амаль, вярнуўшыся!
І нарэшце стрэлкі мёртвых гадзіннікаў рушылі...

* * *

калі ў цябе ёсць
свой свет ці сусвет
ты адчуваеш
межы альбо бязмежжа
калі ты за мяжой
адчуваеш сябе
паабапал

* * *

ты доўга быў за мяжою
потым быў на мяжы
там дзе стаялі крыжы
занавешаныя імжою
я ціха пайшла за табою
ценем сваёй душы

* * *

навошта
мяжа
пралягае
праз сэрца,
навошта
крываваяць
мае
успаміны?
паволі
сцякае
зіма
ручаінамі,
сонца
няма,
і душы
не сагрэцца.

* * *

аднойчы
вечарам снежным
там, дзе студзень і люты
ў начлежным
дазоры на пункце памежным
сустрэчу сваю адсвяткуюць,
ты вуснаў маіх адчуеш
на вуснах сваіх смак.
павер – здарыцца так...

* * *

не супадалі мы
ні ў часе ні ў прасторы
мы выпадалі снегам
спадалі зорамі
вятрамі зрываліся
неўтаймоўнымі
бліскавіцамі неба
распаласоўвалі
хтось наракаў
на ліхое надвор'е
а мы выйсця шукалі
з зачараванага кола
тое месца
дзе тонка ці коратка
каб прарвацца
і вырвацца
у іншае вымярэнне
часа-прасторавае

* * *

*Н.*

ёсць
насамрэч
толькі адна
рака
з якой
я выйшла
але ўступіла
яна
у кожнай з нас
свой бераг
а броду няма
і паміж намі
заўсёды
плыве рака

ёсць
насамрэч
шлях
але ён па вадзе
нязручнасць у тым
што яго
не відаць нідзе
і трэба адно
паверыць
і крок зрабіць
не глядзець
пад ногі

дзе плынь
глыбінёй
звініць
тады
пасярод ракі
дзе вада нічыя
мы нарэшце
сустрэцца зможам
яна
і я

* * *

па крошыве шкляным разлукі
іду да новае сустрэчы...
навошта мы сябе калечым,
аддаючы ў чужыя рукі?..
і як пазнаць – чужы ці родны,
не пераблытаць, не сарвацца
на крык, і як уратавацца
з палону зорак пуцяводных?..

* * *

перахапіць
зубамі
жгут –
тут.
каб крыватoк
хутчэй
спыніць –
шыць.
і болей
не пытайся
ў мяне:
дзе
табе
нясцерпна
так баліць?
– жыць!..

* * *

думкі мае
і жаданні
жывуць
у выраі
там заўсёды
цёпла
і глеба
нібыта
ўрадлівая
а на радзіме
засеянай
успамінамі
нічога
больш не расце
а я
бяскрылая
існую
недзе
між выраем
і радзімаю

* * *

праз слоту
дзён
іду
без намагання
і раптам
апячэ
душу
такое простае
жаданне
трымацца
за тваю руку

* * *

адпусці сябе
і ў цябе адрастуць крылы
ты паляціш
не бойся
гэта не страшна
дыхай глыбока і роўна
глядзі ў неба
у самую вышыню
хтось заўважыць і скажа
– Шчаслівы той,
у каго за спінаю крылы!..

* * *

пад нагамі
расступілася
зямля
раскалоўся
свет
як збан
стары
на дзве
паловы
я стаю
над прорваю
адна
слухаю
вятры
крычаць
шалёна
і на тым баку
расколіны
стаіш
ты
я ведаю
я знаю
і такое адчуванне
акрыляе
я лячу –
трымай мяне

трымай

* * *

мы здарыліся
з табою
неспадзявана
нібы навальніца
ўвосень
мы сталіся
неразгаданым
цудам
якога не просяць
дыханне
перахапіла
на слове "глядзі"
яшчэ раз
уздых-выдых
хадзі да мяне
хадзі

* * *

даходзяць
весткі
што вёску
засыпала
снегам
у двор
без лапаты
нават
няма як
выйсці
паказвае
нораў
няўрымслівы
буйны
снежань
а яшчэ
ўчора
зграбалі
й палілі
лісце

* * *

першы
тонкі
крохкі лёд
на вадзе
і Піліпаўкі
бясконцая ноч
пазнаю яго
здалёк
па хадзе
той
няўцямна-змрочны
настрой

* * *

шпітальных
колераў
зіма
мяне
няма
цябе
няма
ёсць
толькі
белы-белы
цень
анёла
на пустой
сцяне

* * *

свет,
зацыраваны
завірухай,
спіць
і не спяшаецца
ані
падлічыць,
як згубленыя
вочкі
у вязанні,
страчаныя
дні.

* * *

яшчэ
пахмурна
цёмна
шэра
але
каляднай
выцінанкай
мароз
ужо
аздобіў
шыбы
начараваўшы
нам
фіранкі

* * *

з возу,
перакуленага ў небе,
сыпала
крупчаткаю-мукой.
мы, як дзеці,
зноў чакалі цудаў,
рукавіцаю хапалі
снежны рой.
толькі
не збылося,
не змаглося:
ні Мікола,
ані Дзед Мароз
не прынеслі
нам з табою шчасця,
ані радасці
шчымлівае
да слёз.

* * *

калядны цуд
здараецца
аднойчы,
мы кожны год,
нібыта
першы,
чакаем зорку,
укладаем
вершы
і дасылаем
Мікалаю
ліст
святочны.

* * *

у кажуху
падшытым
снегам
з пуховай
хустай
на плячах
ступае
у валёнках
белых
сама
Зіма

* * *

як прысуду
зацята
чакаю
Твайго слова
ведаю
Ты прамовіш
калі я
перастану
чакаць
і ўсё пачнецца
нанова
дай мне
сіл
датрываць

* * *

Свечка
маёй
малітвы
нясмелай
успыхне
і гасне,
здзьмухнутая
сумневам.
Скажы:
і Табе
так
балела
першае
слова –
уздоўж
усяго
цела?

* * *

снег сыпаў
вецер рваў крысо
а я ўрастала
як рабро
і разлівалася
цяпло
– будзе яшчэ
адно жыццё...
бязгучна
прашаптаў анёл
і ахінуў
сваім крылом

* * *

Зоркі
Каляднай
святло
зацепліць
надзеі
прамень,
што мы
прывітаць
паспеем
у сэрцы
сваім
Яго.

* * *

усхадзіўся
вецер,
вые
ў коміне.
дзе вы,
мае дарагія,
якімі
дарогамі
разышліся
па свеце
цэлым?
засцілаю
абрусам
белым
стол,
вячэру
спраўляю.
не абыходзьце
мой дом,
завітвайце,
я
чакаю.

* * *

брукаванка
старога
места
і камяніцы
прыпарушаны
снегам,
як пудрай
цукровай
пернік,
сляды
выводзяць
на рынку
карункавы
надпіс,
ён відочны
з лёту
анёла:
Вясёлых Калядаў!

* * *

зіма ў дзяцінстве выглядала зусім інакш:
ялінка была жывая да самай столі,
мандарынамі пахла ў хаце і смоллю,
Дзед Мароз быў самы сапраўдны,
з ватнаю барадою,
а цяпер усё – мішура...

і снегу было насыпала па пояс ці болей,
ва ўсякім разе, яго хапала заўжды
на пячоры-крэпасці, на сняжкі,
на горкі, дзе санкі ці лыжы, а ў самых
адважных – канькі,
а цяпер – слата пад нагою...

бо, напэўна, тады і сама я была другою:
мне хацелася бегчы, куляцца ў снезе, дурэць,
смяяцца, голасна свіснуць, песню спець,
пяткі, да костак прамерзлыя, на чарэнь
паставіць, каб грэць,
а сёння – сяджу ўдому...

* * *

тыдзень-другі — і надарацца Святы:
зорка, ялінка, сябры за сталом...
а ці на месцы пустым, незанятым
будзе між нас за вячэраю Ён?..

* * *

усміхнуцца
праз боль
і слёзы
светлую
радасць
прыняць
народжанае
Малое
у сэрцы
шчыра
вітаць –
і здзейсняцца
спадзяванні
мары
жаданні
кон
зменіцца
свет
навокал
ва ўтульны
святочны
дом

* * *

сёння зранку
святая Таццянка
прыбралася ў хаце
скоранька,
свежым настольнікам
стол накрыла,
каб святкаваць
імяніны,
у пірог утыркнула
свечачку,
запаліла —
і ўсім запрошаным,
і незапрошаным
сонейка
засвяціла.

* * *

дамкі цагляныя,
глазураваныя снегам,
стаяць радком,
як у краме –
калядныя пернікі,
шакаладныя бабкі
альбо
цукровыя пеўнікі.
і неба шэрае
над імі святлейшым
робіцца,
раптам знаеш – там,
за аблокамі,
сонца тоіцца,
і яно
пральецца аднойчы
праз шчыльную насыпку,
завітае да нас нарэшце
вясёлая
Масленка!

* * *

творог
свежа адтоплены
сцэджаны ў клін,
на сыровадцы
бабка ў печы
духмяны
блін
спячэ,
гарачы схопіш —
руку пячэ! —
намажаш маслам,
ясі са смакам
і
па барадзе
цячэ...

* * *

боль прарастае з душы,
з расколіны-трэшчыны,
у прадсвітальнай цішы
нязграбнымі вершамі.

слова прыходзіць на свет
напорыстым парасткам,
хоць рана яму яшчэ,
яшчэ будуць замаразкі...

* * *

за дзень снегу насыпала па самае “не хачу”.
ты мне так рэдка пішаш і я маўчу,
а калісьці мы разам хацелі
разгушкаць ночы арэлі,
але незаўважна і ціха
са свету сышла парадзіха,
што нам падарыла каханне.
...стыне самотнае ранне...

* * *

шэры снег на шэрым бруку
шэрых дзён тугі суплёт
у вачах маіх блакітных
шэры лёд

* * *

ты не ўмеў цалаваць,
толькі прасіў:
цалуй.
ты не ўмеў танцаваць,
толькі прасіў:
танцуй.
ты не ўмеў дараваць,
але я папрашу –
даруй.

* * *

мы
любілі
свабоду
пакідалі
адно
аднаму
вольнага
часу
процьму
і столькі
прасторы
што
цяпер
нам
цяжка
будзе
знайсціся

* * *

цыгарэта
дрыжыць
і згарае
бенгальскім
агнём
не згасаюць
адно
думкі —
ні ноччу
ні днём
чапляюцца
за ўспаміны
рэчы
мары:
пара
да пары
мая ці твая
ахвяра
прынясе
душы
супакой
адпусці
мяне
Бог
з табой

* * *

даруй
што я была
але не тая
не там
не з тымі
не дзеля таго
даруй
што не была
што не шукала
і што знайшла
не там
і не сваё
даруй
што не трымала
раздавала
без жалю
без шкадобы
ўсё
і ўсім
даруй
што я не ведала
не знала
што
пачуццё
здараецца
такім

* * *

ён странна вынес з сабою смецце,
хоць з’ехаў адзін,
і дом застаўся прыбраны,
але не пазнаць, што жылы.
як звычайна з’еў лёгкі сняданак
і вымыў кубак,
у шафцы застаўся
адно недапіты трунак:
горкі палынны напой
з паўднёвага краю
я дапіваю адна
да дна –
успаміны гартаю...

* * *

ты чуеш, як цішыня памірае пад пальцамі,
працятая стрэламі першых моцных акордаў,
растае зімовымі зношанымі дэкарацыямі
і нараджаюцца гукі новых турботаў?..

ты чуеш, як прарастае з праталін кволая,
яшчэ не пачутая, нікім яшчэ не запісаная
першая рэпліка новага дня вясновага,
бо роля старая мною да рэшты сыграная?..

* * *

праз
завірухі
і завеі
праляцець
а там
дзе неба
край
пачне
вышэць
развесці
крылы
і заплюшчыць
вочы
адзін
уздых
завершаны
палёт
растоплены
ілжывы
брудны
лёд

* * *

сорак саракоў
гартавалі крылы
несці вясну дамоў
колькі ж трэба сілы
а я на адным крыле
пасярод зімы
ці шмат магла прыхапіць
з выраю цеплыні
і той хто бачыў мяне
ў мітусні снягоў
думаў: дзіўная птушка
як жа адным крылом
нябёсы змагла
разгушкаць
і расхістаць
каб высокі блакіт
і сонца
было відаць

* * *

зіма пакідае сляды
на вясновай мяжы
пад снегам на даху
спяць яшчэ капяжы
але час іначай ужо бяжыць –
хочацца жыць!..

* * *

паўднёвы
вецер
адліжны
вусны
мае
ліжа
кліча
мяне
хіжа
абяцае
цяпло
спакусны
ведаю –
падмануся
але ён
лагодна
шапоча
зраблю
так
як захоча

* * *

ноччу яшчэ марозна
на бруку сівее лёд
больш не прасі мяне – позна!
я прашыю цябе навылёт
пагляду апошнім стрэлам
ніхто не ўратуе цябе
ты даўно ў мяне пад прыцэлам
як мішэнь на голай сцяне

* * *

зіма яшчэ ўводзіць у зман,
срэбным пылам цярушыць...
а ў душы прарастае цюльпан
і пяшчота душыць.
аднойчы прамень цяпла
той бутон раскрые,
тады сабярэ пчала
драбкі залатыя.

* * *

не пакідай мяне ў самоце
апошняга снегападу
не пакідай у слоце
застылага саду
думак тваіх і сноў
мрояў-лятункаў
слухаць хачу голас твой
смак адчуць пацалункаў
я замерзла ў шэрай зіме
навылёт да крывінкі
сагрэй сонца мяне
прарасці травінкі
пачуцця нясмелага
кволага
беспрытульнага
не пакідай у смузе
свету няўтульнага

* * *

зіма заставалася з намі
так доўга,
каб мы паспелі
запісаць слядамі
на ейных снягах
невыносны
боль стратаў.
растане, сплыве ўсё,
мы выйдзем
з вясновай купелі
і нас не пазнаюць
без масак
і маскхалатаў.

* * *

пайду
за горад
на гару
гукаць
вясну
недапісаны
ліст
без адрасу
дашлю
адказу
не хачу
і не чакаю
вясну
дарэмна
я гукаю
яна сама
цудоўна знае
калі яе
надыдзе час
завітае

* * *

гэта ўжо не адліга
гэта – вясна
я застануся
цяпер
на выспе
адна
ты мяне
ўсю высніў
да самага дна
снег сплыве
нібы мроя
яшчэ да відна

* * *

з вуснаў тваіх
нібы вада жывая
маё імя
па кропельцы
сцякае
я прагна п'ю
і не магу
напіцца
мне кропляю
па кроплі
наталіцца
жыцця не хопіць
толькі б
не стаміцца

* * *

сочыцца
з мяне
сакавік
словамі-
шэптамі
прагну
сокам
сваім
напаіць
вусны
твае
сшэрхлыя

* * *

прамень
разбіваецца
срэбнай
лускою
па талай вадзе
цёплым
дыханнем
ты
захлынаешся
ува мне
і гэта
не мара пра сонца
і нават не сон
гэта мы
на донцы
кахання
іскрымся
ігрыстым
віном

* * *

на вейках
тваіх салёных
пырскі мора
ты выходзіш
на бераг
з пены
няўрымслівых словаў
з неразборлівых шэптаў
бурлівых
глыбінных
водаў
у вачах
мільгацяць
бартавыя агні
маіх параходаў

* * *

вясна разбівае лёд узмахам вясла.
крыгай па талай вадзе памяць сплыла,
знесла жаданне вярнуць, затрымаць зіму,
бо я ў снягах яе вечных трываць не магу.

я таксама вясна – раскалю ільды.
я таксама вада – растаплю снягі.
я таксама рака – змыю смецце дзён –
і скажу, што зіма была проста сном.

* * *

падпільнаваць
твой сон
пракрасціся
асцярожна
на дыбачках
прынесці
сваё пачуццё
і пакінуць
бо сіл няма
ў штодзённым
жыцці
адчуваць яго
кожнай
жылачкай

* * *

кладуцца
цені
пад вачыма
на знак
бяссоннае
начы
у гэтым
свеце
мы
чужыя
а ў сне
інакш
ажно баюся
сніць

* * *

сцiснуць
далонi,
вусны
сцяць,
вочы
адвесцi,
схаваць,
не здрадзiць
нават
у сне
жаданням
памкненням
марам
прагным –
сабе.

* * *

ночы
ад снегу
і зор
нібыта
святлейшыя
дні
павярнулі
на лета
сталі
даўжэйшыя
у снах
пад нагамі
хлюпоча
стылая
снежніца
да цябе
праз сутонне
іду
я
начлежніца

* * *

не адбіваюцца
ў маіх вачах
твае нябёсы
разбіваюцца
як ледзяшы
чарговыя вёсны
нашыя сны
зімуюць
у цёплым выраі
бяссонная ноч
вартуе нас
пільна
на вылеце
з зімовых мярэжаў
пары чакання
бясконцага
але дзень настае
і пырскаюць
слёзы сонца

* * *

ты жывеш
у дзікіх лясах
на далёкай поўначы.
да цябе
мой страх
прыходзіць
а поўначы,
і ты нетаропкімі
словамі
улагоджваеш,
зацалоўваеш
вочы і вусны
на сон,
хаваеш
пад парасон
пяшчоты
сваёй
мяне:
я ведаю –
страх
міне...

* * *

на тонкай жылцы
трапеча сэрца
срэбрам жывым.
сарвецца,
то разаб’ецца –
і што тады?..
трымай, лавец,
у руках
здабычу сваю.
я і без сэрца
як-небудзь
ужо дажыву.

* * *

важна
знаць
што ты ёсць
не зважаць
дзень ці ноч
пералётныя
сны
далятуць
да вясны
занясуць
да цябе
дзе ў халоднай
вадзе
на дне
сэрца
дрыжыць
каб жыць

* * *

хачу быць дрэвам
каб ты да мяне туліўся
мае галіны
цёплымі лашчыў далоньмі
каб побач стаяў
і не ведаў
што я – гэта дрэва
якое каханнем
цябе ахінае
і ценем

* * *

думак маіх
уначы
сноўдаюць
павукі
ткуць
звычаем старым
той самы
узор-матыў:
на паляванні
ты
будзеш зверам
а я
лаўцом

* * *

час
напоўнены
чаканнем
да краёў
разбівае
сустрэча
на шчасце
прылятаю
з усіх
краёў
у далоні
тваe
крылы
скласці

* * *

адразу
спляліся пагляды.
потым –
пальцы і рукі.
целы
прагна хацелі
перамагчы
разлукі.
спляталіся
і трымцелі
падчас
кароткіх
спатканняў.
аднойчы
вясеннім раннем
маленькі
драбочак
шчасця
прарос
зярняткам
ва ўлонні –
не расчапіць нам
далоні...

* * *

узгоркі,
рудое іржышча,
руіны замкаў,
касцёлаў вежы,
скразнякі
на гарышчах,
дажджу мярэжы
з неба
выбеленага,
на скрыжаванні дарог
крыжы
раскрыленыя...

* * *

недзе на ўзлеску
стаіць мой забыты дом.
агонь у печы мурлыча
сонным катом,
а пад лаўкай –
хвост абаранкам –
ляжыць наш лёс:
глухі і сляпы
да ціхіх просьбаў і слёз,
ён не ўкусіць,
але й не прапусціць чужых,
мы застанемся тут назаўжды
ўдваіх.

* * *

бачыш, даўжэюць цені,
змрок ападае,
адно ўпартае дрэва
лісця не скідае,
туліцца да ліхтара.
і цёмная ноч асенняя,
нібы расцвіла
жоўтаю хрызантэмаю
дрэва
у пляме святла?..

* * *

там, дзе мы ўчора мералі дарогі,
сягодня роўнядзь снежнага радна...
не застанемся мы з табою да відна –
хата даўно няпаленай была,
і нам не хопіць кволага цяпла,
хоць дровы падкідай у печ да змогі...

* * *

маленькі хлопчык у паўночным краі,
марознай зябкасці не адчувае,
старанна слова “вечнасць” укладае,
і зледзянелым сэрцам шчэ не знае:
яго ўратуе тая, што кахае...
*ubi tu Caius, ibi ego Caia.*

* * *

усмешка сонца
на далоні
падваконня,
і неба высокае –
як нідзе
смак кавы
глыбокі
і непаўторны,
і ранак-каханак
бліскучай расой
на траве
мой рай
маленькі
на круглай
(як кажуць)
зямлі
ці тут калісьці
чужыя нам
іншыя
людзі
яшчэ жылі?..

* * *

Не было дзе падзецца –
дзеці,
хата з вокнамі
на два бакі:
у адным –
прыпынак і крама,
у другім –
ліхтары
ў яры.
Дзень,
як цень,
паспяваў прасунуцца
светлай стужкаю
па сцяне
паміж змрокам
ранку і вечара,
дзе ў мяне
не было мяне.

* * *

Раніца мая басаногая
з кудлатай ад сноў галавой
па падлозе паціху шлёпае,
размаўляе сама з сабой,

пакуль тая кава заварыцца,
раніца мыцца ідзе,
мімаходзь неяк там управіцца
пабудзіць, апрануць дзяцей,

а потым сняданак:
– Хуценька!
подбегам – школа, садок;
тэлефон у кішэні ценькае:
“Ну, як ты, дачушка?”
– “ok!”

* * *

На тваіх трымаецца плячах
увесь парадак і лад у свеце;
на маіх – трымаецца дах,
фіранкі, кухня і дзеці;
ты гойсаеш на сямі вятрах,
бачыш прылівы
і розныя фазы месяца,
а я пільную на скразняках,
каб не прастылі
і не зваліліся з лесвіцы...

* * *

усхадзіліся
успаміны
як рыплівая
падлога
пад нагамі
не даюць
заснуць

* * *

Стрэлам перуновым –
уварваўся ў мой сон!
Святлом месяцовым –
прасачыўся ў мой дом!
Пазнала цябе па вачах,
пазнала цябе па руках.
А раніца запытала:
– З кім ты, Купала,
ноч начавала?

* * *

ісці басанож
па белых аблоках
з ваты
смела ступаць
патанаць аж па косткі
прыйсці
да цябе
вільготным
і цёплым ранкам
запарыць
у кубку гліняным
апошні дзень лета

* * *

рэхам глухаватым
з кінутае хаты
нібы хто гукнуў –

ссыпаліся долу
з яблыні падолу
яблыкі ў траву...

* * *

лета паволі перацякала
з зялёнага ў жоўты:
залацілася жыта,
малочным
салодкім бурштынам
наліваліся яблыкі.
мне не хацелася думаць,
што я
быццам нешта згубіла;
я дачытала
апошні раздзел –
сумна, вядома,
я зжылася з галоўным героем...
..................
на жаль, я загадзя
ведала, што
напісана
на апошняй старонцы
першага тому...

* * *

рука ў руцэ
стаю ў рацэ
сплывае лета
паўз мяне
я аддаю
свой боль вадзе
патоне
дзень
і прападзе
каменьчыкам
на самым дне
я застануся
у табе
ты застанешся
ува мне

* * *

мне застануцца – вершы
табе дастануцца – вершы
не быў ты ні першым
ні рэшнім
але зноў зацвітуць чарэшні
верыш мне?..

## ЗМЕСТ

## III. МЯЖА ПРАЗ СЭРЦА



## IV. КАЛЯДНЫЯ ВЫЦІНАНКІ

## V. СЛОВА ПРЫХОДЗІЦЬ НА СВЕТ



## VI. Я ТАКСАМА ВЯСНА



## VII. ПЕРАЛЁТНЫЯ СНЫ

## VIII. МОЙ ДОМ

**Сцісла пра аўтара:**

Наталля Русецкая.
Нарадзілася ў 1974 годзе ў мястэчку Урэнь
Ніжагародскай вобласці (Расія).
Расла і вучылася ў Мінску.
Піша вершы, займаецца перакладамі,
даследуе беларускую літаратуру.
Выдала паэтычны зборнік “Два бяссонні” (2004)
і манаграфію “Сямейная муза.
Паэзія Францішкі Уршулі Радзівіл” (2007).
Жыве ў Любліне (Польшча).

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэчка часопісу "Дзеяслоў"
Выпуск 15

**Наталля Русецкая**

# Каштаны ў кішэнях

*Вершы*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*

Рэдактар *Вікторыя Ляйкоўская*
Мастак *Зміцер Шыла*
Вёрстка *Хведар Сумкін*
Карэктар *Тацяна Сушчэўская*

Здадзена ў набор 20.05.2008 г. Падпісана да друку 17.06.2008 г.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Petersburg.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 4,2. Ул.-выд. арк. 1,3.
Наклад 300 асобнікаў. Заказ № 305

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
сумеснае таварыства з аьмежаванай адказнасцю “Медисонт”,
ЛИ №02330/0133391 ад 19.07.04.
ЛП №02330/0056748 ад 22.01.04.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.